Год IV. Студзень № 1 (36)

# Шлях Моладзі

... „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі."
ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1932 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6

ЗЬМЕСТ № 1.



*Усіх нашых даўжнікоў просім прыслаць належную падпіску за «Шлях Моладзі», бо у праціўным выпадку высылка часопісі ад наступнага нумару будзе ўстрымана!*


# „Шлях Молдзі“

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . . 50 гр
„ на паўгода . . . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . . . 2 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Завальная № 6 — 10. (Wilno Zawalna 6 — 10).
Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год IV. | Вільня, Студзень 1932 г. | № 1 (36) |
|---|---|---|

## У чацьвертым годзе.

З сёлетнім 1-шым нумарам „Шляху Моладзі“ ўваходзім у 4-ты год нашага выдавецтва: тры гады цяжкой, саматужнай і самаахвярнай працы маем за сабой.

Тры гады часу здаюцца няраз аднэй малаважнай хвілінай. Але гэта толькі здань; сапраўднасьць — іншая: яна поўная важных перамен і датасаваньняў. Гэтыя перамены, пры сяньняшніх умовах беларускага жыцьця, далёка не заўсяды выходзяць на нашу-ж беларускую карысьць. Але жыцьцё мусіць знайсьці сабе выхад. Вось прыклад:

Тры гады таму назад мы сусём здавалялі патрэбы сваіх чытачоў, друкуючы нашу часопісь выключна толькі гражданкай (г. зв. „рускімі“ літарамі). Час аднак ішоў і сваё рабіў:беларускіх школ у Зах.Беларусі так як і няма, моладзь— а наша часопісь прызначана для моладзі — ня мае гдзе навучыцца свае нацыянальнае азбукі і што за гэтым ідзе— ня можа пасьля свабодна карыстацца з свае роднае часопісі і кніжак друкаваных гэтай-жа азбукай, г. зн.гражданкай.

Перад намі стала пытаньне, *як зрабіць беларускае друкаванае слова больш даступным для найшырэйшых колаў беларускай моладзі?*

Ня хочачы вырашаць гэтага пытаньня ў сваім вузейшым толькі рэдакцыйным коле, мы зьвярнуліся з адкрытым запытаньнем — у форме анкеты — да нашых супрацоўнікаў і больш дзейных чытачоў, як яны прадстаўляюць сабе вырашаньне гэтае справы. Адказы былі зьмешчаны ў нашай часопісі і далі наступныя вынікі: 1. адзін голас паў за тое, каб „Шлях Моладзі“ на будучыню друкаваць на перамен: адзін нумар гражданкай, а другі — лацінкай; 2. сем галасоў — каб „Шл. Мол.“ друкаваць выключна лацінкай; 3. восем — за тое, каб „Шл. Мол.“ друкаваць вы-

ключна гражданкай і 4. 14 галасоў за тое, каб у адным і тым-жа нумары адну часьць матэр'ялаў друкаваць гражданкай, а другую — лацінкай.

Маючы перад сабой гэткія вынікі галасаваньня сваіх супрацоўнікаў і чытачоў ды кіруючыся мяркаваньнямі агульна-нацыянальнымі, Рэдакцыйная Калегія „Шляху Мол." на паседжаньні дня 17 г. м. і пастанавіла друкаваць сваю часопісь аднача́сна і гражданкаю і лацінкаю. Пры гэтым пастаноўлена ўжываць лацінку цалком зрэформаваную, г. зн. ня толькі „č" і „š", але таксама і вускае „v", замест шырокага „w". Да зьдзейсьненьня гэтае пастановы мы і прыступаем ужо ў гэтым нумары „Шл. Мол."

Другой навіной у нашай часопісі ў гэтым годзе ёсьць пашырэньне ейнага зьместу на гэтулькі, каб у ім, як у люстры сапраўды адбіваліся жыцьцё і запатрэбаваньні моладзі, дык каб зьмест гэты быў для яе — прынамся ў малым разьмеры — спробай дапаўненьня агульнай асьветы шляхам самаадукацыі. На гэткі крок мы ўздабыліся дзякуючы таму, што круг нашых супрацоўнікаў за гэты час пашырыўся ня толькі што да лічбы, але і што да якасьці.

Сьмеем спадзявацца, што і гэта навіна будзе нашымі чытачамі належна прынята і ацэнена.

Пры ўсім гэтым не зьмяніліся аднак на лепшае нашы магчымасьці матэр'яльныя. І дзеля таго наша часопісь і сёлета, як дагэтуль, захавала той самы, малы, фармат, бо незашта яго пабольшыць. Гэта змусіць нас некаторыя аддзелы матэр'ялу зьмяшчаць ня ў кожным нумары, а толькі праз адзін.

Ад добрай волі і ахвярнасьці нашых паважаных чытачоў, супрацоўнікаў і сапраўдных прыхільнікаў залежыць, як хутка і гэта перашкода будзе пераможана, каб „Шлях Моладзі" мог мець разьмер прынамся двойчы гэткі, як сягоньня.

Божа дай, каб гэта сталася як найхутчэй!

# Крыху з нашай гісторыі.

## Жыцьцё Беларуска-Літоўскай Дзяржавы.

Як ужо сказана ў папярэдняй стацьці — Беларуска-Літоўская Дзяржава; ад пачатку свайго існаваньня, была пастаўлена на моцныя падставы разумнага кіраўніцтва і таму далей гэтая дзяржава што раз болей умацоўвалася вонкава і ўнутранна.

У гісторыі Беларуска-Літоўскай Дзяржавы, як валадароў яе, сустракаем такія імёны: Вітэн (1293—1316), Гедымін (1316—1341), Альгерд (1345—1377), Кейстут (1377—1379), Ягайла і Вітаўт.

Разглядаць дзейнасьць кожнага князя паасобку мы ня будзем, бо гэтыя весткі занялі-б шмат месца.

За часоў панаваньня гэтых князёў новая дзяржава канцэнтруе ў адно заходня-беларускую і літоўскую землі. З часоў Гедыміна сталіцаю ўспомненай дзяржавы стаецца Вільня. Полацак, ратуючыся ад немцаў у 1307 г., паддаўся беларуска-літоўскаму валадару. З гэтага часу Полацак ніколі не адходзіў ад Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля Полацку прылучыўся і Віцебск, які ўжо таксама быў самастойным княствам.

Прылучэньне Віцебска да Вялікага Княства сталася з тэй прычыны, што апошні Віцебскі князь, ня маючы наступнікаў па мужчынскай лініі, аддаў сваю дачку за сына Гедыміна — Альгерда. А таксама ў хуткім часе стаў залежны ад Гедыміна і Менск з сваёю воласьцю.

Каля гэтага часу маладое Беларуска-Літоўскае гаспадарства прылучыла да сябе Турава — Пінскае Палесьсе і зямлю Берасьцейскую. У часы панаваньня Альгерда і Кейстута, да Беларуска-Літоўскай Дзяржавы прылучыліся Чарнігаўшчына і Кіеўская воласьць з Валыньню і Падоліяй. З Кіеўшчынай гэта таму так сталася, што яна ўжо ў пачатку XIV ст. ня была падобнай на тую Кіеўшчыну, каторая ў часы Уладзімера Манамаха руйнавала нашу бацькаўшчыну — Полаччыну. Цяпер Кіеўшчына сама была зьнішчана і зруйнавана, як унутраным бязладзьдзем, так і набегамі паўднёвых сьцепнякоў, раней Полаўцаў, а пасьля Татараў. Сам Кіеў стаўся маленькім мястэчкам, дзе, як кажа італьянскі падарожнік, было ня больш 200 жыхароў. Агулам Кіеў зусім занапаў: перастаў быць сталіцаю рэлігійна-царкоўнага жыцьця Русі, страціў сваю вартасьць гандлёвага і палітычнага цэнтру. Мітрапаліт Кіеўскі, сільнейшыя князі і насельнікі Кіеўскай воласьці—ўсе ўцякалі ў Маскоўшчыну ад татарскіх пагромаў і там пачалі будаваць цэнтр жыцьця, якое дасюль бурлела ў Кіеве.

Дзеля гэтага Кіеўскі князь, з жменькай людзей, ня мог утрымацца, як самастойны валадар і павінен быў прызнаць дзяржаўную вярхоўную ўладу магутнага князя Беларуска Літоўскай Дзяржавы.

Захопніцкая палітыка Альгерда не прыбірала меры; ён не здавольваўся паўдзённымі тэрыторыямі, а, насьлядуючы Полацкіх князёў, імкнуўся зацьвярдзіць свае ўплывы на поўначы ў гандлёвых валасьцях з гарадамі Ноўгарадам і Псковам.

Апрача таго Беларуска-Літоўская Дзяржава звар очвала свае вочы і на Ўсход. Яна жадала схіліць у свой бок напрыкл. Цьвярскае княства, падтрымліваючы яго ў барацьбе з Масквою. Але тут, на Ўсходзе, ня зусім добра ўдавалася рэалізаваць пляны, бо рос у гэты час сільны праціўнік у асобе маскоўскага валадара.

Маладая дзяржава, якая шмат працавала над аб'еднаньнем Рускіх зямель, таксама мусіла бараніць межаў сваей дзяржавы ад страшнага ворага ў той час як татараў, якія тады нападалі на паўдзённых і ўсходніх славянаў. Ня гледзячы аднак на тое, што татарская сіла была большай, войска Беларуска-Літоўскай Дзяржавы разьбіла іх дашчэнту так, што яны, страціўшы многа свайго войска, былі змушаны ўцякаць і доўга не нападаць. Дзякуючы гэтаму Беларуска-Літоўская Дзяржава мела магчымасьць эканамічна і культурна разьвівацца ў сваіх граніцах.

І пасьля бачым, што з раськіданых заходня-славянскіх земляў, стварылася сільнае гаспадарства. У гэтай новай дзяржаве на кожным кроку бачым плады працы нашых прадзедаў.

З гандлёвай Полаччыны прышлі сюды капіталы, дзякуючы чаму з вясковай беднай Літвы, робіцца багатая дзяржава: будуе гарады, замкі, замчышчы, арганізуецца сільная армія, дзяржаўны апарат, культурна і эканамічна край становіцца на належную вышыню. У арміі новай дзяржавы займаюць высокія становішчы камандзіраў — баяры — Беларусы. Яны кіруюць ад імя валадара, як асобнымі гарадамі, так і цэлымі тэрыторыямі. Ім прызнаецца права і даручаюцца такія справы, дзе асабліва патрэбна адукацыя і лоўкасьць. Адным словам, мы бачым, што нашыя продкі, як культурны элемэнт, займаюць пачэснае месца ў палітычных і грамадзкіх справах гаспадарства. Ідзе згоднае збліжэньне паміж двумя народамі, Беларусамі і Літоўцамі. Хоць валадары дзяржавы і лічылі сябе Ліцьвінамі, то ўсёж-такі знаці добра беларускую мову, ужывалі яе пры сваім двары; гэтыя князі жаніліся з беларускімі княжнамі і часта прымалі хрысьціянскую веру па ўсходняму абраду.

Агулам беларуская культура і мова ў дзяржаве была

пануючай. Валадар называў сябе (Rex Lituinorum Ruthenorumque), гэта знача — кароль Літоўцаў і Беларусоў.

Ня гледзячы на тое, што Літоўцы былі паганцамі, а Беларусы—хрысьціянамі, абедзьве нацыі жылі ў згодзе. Хоць ніхто літоўцаў ня змушаў прыймаць хрысьціянства, аднак у канцы XIV ст. каля 50-х літоўскіх князёў прынялі ўсходня-хрысьціянскую веру, бо яна імпанавала ім сваей культурай.

Згода Літоўцаў і Беларусаў у аднэй дзяржаве тлумачыцца тым, што будаваньне Беларуска-Літоўскай Дзяржавы адбывалася шляхам згоды, а ня прымусу. Усе беларускія землі дабравольна прылучыліся да дзяржавы Вялікага Князьства, за выняткам толькі Смаленска, з яго тэрыторыямі, каторыя былі прылучаны шляхам вайны.

Мы ведаем, што паасобныя беларускія землі былі прывучаны да вечаў, як волі народу, якая кіравала жыцьцём. Мы бачым, што і цяпер новая дзяржаўная ўлада не нарушыла гэтай старадаўнай ідэі народапраўства; яна забясьпечыла граматамі гэтыя правы народу. Беларускія землі, увайшоўшы ў склад новай дзяржавы, не зьмянілі свайго твару: яны захавалі свае традыцыі, звычаі і культуру. Зусім інакш было на Ўсходзе; там Маскоўскія валадары руйнавалі і зацiралі праўдзівае аблічча старарускай культуры і традыцыі падбітых плямёнаў. Касуецца там індывідуальнасьць тэрыторыяльная і, за часоў Івана Грознага, узрастае поўны тэрор.

**М. Пяцюкевіч.**

# Крыху аб беларускай народнай песьні.

Народная песьня — гэта тэстамэнт мінулых пакаленьняў народу. Паводле народнай песьні можна судзіць, як даўно даны народ пачаў сваё народна-духовае творства і як даўно жыве сваім асобным народным жыцьцём.

Кожны жывы народ ніколі не перастае тварыць і разьвіваць сваей народнай культуры.

І беларуская народная песьня, якая бярэ свой пачатак ад няпамятных часоў, не канчаецца сяньняшнімі днямі грубога матэр'ялізму.

Мы няраз чуем у мэлёдыі новай белар. песьні, узятай часта жыўцом з творства музычнага якой небудзь чужой адзінкі, асаблівасьці характару беларускіх народных песьняў, калі гэту песьню выконывае беларускі народ. Чым шырэй і даўжэй такая мэлёдыя пяецца „немузыкальнымі“ нашымі

вясковымі сьпевакамі, тым далей яна адыходзіць ад свайго першапачатнага выгляду, набіраючы колёрыту народна-людовай мэлёдыі.

Апрача такога працэсу, мы спатыкаем так-жа і іншы: пры датасоўцы тэксту да мэлёдыі, большая ўвага зьвяртаецца на тэкст, чымся на мэлёдыю.

Вось-жа, пакуль мае паўстаць якая небудзь народна-людовая песьня, сьпярша паўстае верш на тую ці іншую тэму, якім апяваюцца акружаючыя прадметы, прырода, здарэньні і ўражаньні. Калі такі верш сапраўды ўдасца, ён разыходзіцца ў народзе і народ яго ў адпаведным часе: на гульнях, на зборках, пры агульнай працы, на сямейных урачыстасьцях ды розных ігрышчах пачынае дэклямаваць. У самай-жа дэклямацыі ўжо пачынаецца сьпявучасьць, зарысоўуецца мэлёдыя, якая эволюцыйна пераходзіць у выкананьне вокальнае — сьпеў.

Вельмі часта гэткі верш любячымі сьпеў беларусамі адзяецца адразу ў мэлёдыю і разносіцца ад вёскі да вёскі, аж па цэламу краю, ужо не як верш, а як гатовая песьня. Ясна, што мэлёдыя такой песьні, заўсяды адцісьне на сабе пячаць сваечаснага народнага ўмузыкальненьня, якое сваей будовай адпавядае больш-менш уплывам музыкальнасьці агульнай.

З вышэйсказанага ясна, што і народна-людовыя песьні дзеляцца ня толькі паводле абрадаў ды пары году, але і на эпохавыя.

Сярод беларускіх народных песьняў агулам, мы знаходзім песьні з дахрысьціянскай (паганскай) эпохі, з эпохі хрысьціянскай, з часу прыгону і навейшыя. Каб разьдзяліць нашу народную песьню на эпохі, мы сьпярша ў зьмесьце тэксту шукаем мэтрыкі ейнага паходжаньня. Падзяліўшы такім чынам песьні на эпохі, мы можам прыглядзецца і да будовы яе мэлёдыі. Бязумоўна, розьніцу ў гэтай будове мы заўважым, калі параўняем адну песьню з другой, г. зн. мэлёдыю песьні эпохі старэйшай — з малодшай. Характар гэтых мэлёдыяў нідзе ня губляецца і, як неразрыўнае пасма, працягіваецца праз усю гісторыю нашай народна-людовай песьні.

Некаторыя, судзячы нашу народна-людовую песьню па яе славянска-мэлянхалічным характары цьвердзяць, што гэта духовы вытвар гора і прыгнобленасьці беларускага народу ў мінуўшчыне.

Я-б гэтага не сказаў, бо на гэта ня можна знайсьці доказаў у мэлёдыі нашай песьні, якую скарэй можна аднесьці да далёкай мінуўшчыны і параўняць з музыкай старой Грэцыі. У вельмі многіх выпадках мэлёдыя нашай народна-людовай песьні адпавядае некаторым тонацыям стара-грэцкай музыкі. Ня думаю аднак, каб і стара-грэцкая музыка

была так-жа вытварам толькі гора ды народнага прыгнобленьня...

Наша песьня мае больш даных разглядаць яе праз прызму стара-грэцкіх гам, або музыкі „грыгорыянскай“, запазычанай у вялікай меры з музыкі стара-грэцкай, чымся гэта рабіць праз учуцьцёвасьць гора і народнага прыгнобленьня. Пры гэтым, каб пазбыцца цьверджаньняў, што наша народна-людовая музыкальнасьць ёсьць нейкім аднабокім вытварам толькі гора, загляньма і ў вялікую мінуўшчыну нашага народу. У гэтай падарожы мы бачым і сьветлыя часы тагачаснага жыцьця беларускага народу. Дык няўжо-ж наш народ жыве толькі тады, калі ён прыгноблены і толькі тады любіць пяяць сваю песьню?

На мой пагляд, беларуская народна-людовая песьня — гэта вытвар духовы нашага народу не з-пад націску гора ды сьлёз, але **вытвар усяе паўнаты народнага жыцьця** — гора, шчасьця, суму і радасьці.

**Я. Пазьняк.**

# З падарожы па Палесьсі.

## Палесьсе. Першая сустрэча з Паляшукамі.

Па ад'езьдзе з ст. Ляхавіч пачало нам сьвітаць. Пасажыраў у вагонах было мала, толькі часам на якой станцыі ўсядзе жыд лясны — купец, што едзе ў палескія лясы, або паліціянт з арыштаваным паляшуком, якога вязе ў Лунінскую турму адбываць кару за „крадзеж“ лесу.

Раніца была цудоўна пекная. Неба чыстае, яснае, быццам у лязуры выкупанае. Праз адчыненыя вокны вагону даходзіў прыемны арамат летняй раніцы. З вялікай прыемнасьцяй і прагавітасьцей глытаў я поўнымі грудзьмі жыцьцядайнае паветра палескай раніцы.

Гэта быў першы раз, калі я пабачыў і адчуў палескую летнюю раніцу, якой ня бачыў у іншых старонках Беларусі. Яснае сонейка ўскацілася з-за палескіх раўнінных балотаў і сваімі пяшчатлівымі праменьчыкамі мамэнтальна абліло ўсю роўнядзь, пакрытую мокрымі сенажацямі, карлаватым кустарнікам і вялікім мохам. Заіскрылася брылянцістым блескам раньняя густая раса, асеўшая на цэлым палескім краявідзе і гэтым упрыгажала сваей дыямантавай сарочкай воблік панурага Палесься.

Амаль, што ад Ляхавіч пачынаецца Палескі краявід і цягнецца аж пад Вальнь. Калі пад'ежджаецца бліжэй да Лунінца, то тут ужо бачыцца праўдзівае беларускае Палесьсе у поўным ягоным выглядзе. Па абодвух бакох чы-

гункі цягнуцца неабнятыя вокам раўніны, паросшыя хмызьняком і вялікай травой — асакой.

Між хмызьняку можна пабачыць прагаліны, часам даволі вялікія: гэта сенажаці і вастраўкі пахатнага поля. Глянуўшы на такую сенажаць здавалася-б, што на ей расьце мурог, але сапраўды яна пакрытая дзікай травой, якую нават козы есьці ня хочуць. На такой сенажаці можа пасьвіцца толькі палескае быдла, бо нашая карова там заразбы загразла па вушы: пад гэтай травой—трасучае бяздоннае багна. Аднак гора і неабходнасьць ня толькі чалавека, але і скаціну навучаюць змагацца з бязлітаснай прыродай, з тымі варункамі, у якіх знаходзяцца. Наш наддзьвінскі селянін прапаў-бы ў тых абставінах, у якіх праз цэлае сваё жыцьцё знаходзіцца Паляшук.

Возьмем хоць-бы для прыкладу, такую сенажаць, па якой можа йсьці толькі нашая курыцца, а Паляшук ідзе, косіць і зьбірае стуль сена. Колькі ён кладзе мазольнай працы, якая зусім не аплачывае труду! І аднак — змагаецца да апошняй хвіліны. Дык і нічога дзіўнага, калі Паляшук культуральна ніжэй стаіць ад іншых Беларусаў: — ён ня мае часу на разьвіцьцё свайго духа, ён усю сваю ўвагу, сілу і энэргію зьвяртае на барацьбу з суровымі ўмовамі жыцьця фізычнага.

Першы раз пабачыў я (хоць з цягніка), праўдзівага, жывога Паляшука, пад'яжджаючы пад Лунінец. Быў гэта стары пастух, які недалёка ад чыгункі трымаў на павадку худую, маленькую кароўку, — пасьвіў яе. Апрануты ён быў вельмі ўбога: кароткая саматканая, вынашаная і зусім палатаная сьвітка, порткі — колер якіх акрэсьліць нельга: падобны да зямлі — зрэбныя. Стаяў гэты стары Паляшук і панура глядзеў на цягнік, што пралятаў міма яго, адначасна засланяючы хмарай густога дыму.

Лунінец. Тут цягнік стаяў нейкіх мусіць з пятнаццаць хвілін. Выкарыстоўваючы гэты час, вышаў я з вагону, каб паглядзець на палескае места. Пры дзьвярох вагону сустрэлі мяне Паляшукі — балаголы, якія адзін перад другім дапытываліся, ці ня трэба мяне адвесьці ў места. Зварочываліся да мяне паляшуцкім дыалектам: „Куды пана завесты? У мяне добры конь — як відіш заедэмо.“

Гэтыя Паляшукі лічуцца за бывалых людзей, бо яны штодзень бываюць на станцыі, скуль развозяць пасажыраў. Апрануты яны таксама былі лепш ад таго старога пастуха: сьвіткі ў іх цэлыя, лапці новыя і анучкі вават чыстыя, кожны меў чырвоную хустачку на шыі, якая з-заду ня відалася, бо яе закрывалі русыя, доўгія ў бязладным парадку ляжачыя валасы.

Здаецца-б ахвотна паехаў з усімі гэтымі балаголамі,

але, нажаль, трэба было ехаць цягнікам далей— у глыб Палесься.

Зараз рухнуў цягнік і панёс далей на Палесьсе, у бок Сарнаў. З Лунінца прыбыло некалькі новых пасажыраў, былі гэта пераважна жанчыны. З вялікай цікавасьцю прыглядаўся я тубыльцам, бо яны розьняцца ад мяне сваім выглядам, вопраткай, а нават крыху і мовай. Хацелася мне пачаць з імі гутарку, але баяўся, каб ня было тое, што з тымі сялянамі якія ехалі ад Вільні ды не хацелі гутарыць са мною. Аднак, хоць здалёку, прыслухоўваўся я іхнай гутарцы. Жанчыны адна аднэй расказывалі пра свае беды „Шоб ён брухам цяхаўся па землі той гад, як ён мяне сьцягаў на суд за ягады"—казала адна. Яна расказывала суседцы, што эканом падаў яе ў суд за ягады.

Яшчэ перад Лунінцам пачалася мая праца этнаграфічная — ад таго старога пастуха—і чым далей еду, тым больш бачу цікавых рэчаў. Вось і гэтыя жанчыны мяне цікавілі: іхная гутарка, прыгожая арыгінальная людовая вопратка, рысы іхных твароў і г. д. Прыглядаючыся з вялікім зацікаўленьнем да палескага краявіду бачыў, як Паляшукі валамі аралі, на валох ехалі кудысь. Бачыў, як яны, падвязаўшы дошкі — лыжы да ног, хадзілі па дрыгвяным балоце, грабілі сена і складалі ў стагі. А гэтае сена з балотаў яны вывозяць толькі зімой. Час ад часу можна было пабачыць паляшуцкую вёску, хаткі там ніскія, вакон мала і тыя вельмі малыя, а нязраз мяхом заткнутыя. З гэтай вёскі веела убогасьцю, нядоляй і вечнай бядой, недастаткам.

Так хутка час праляцеў, што неагледзіўся, як даехаў да станцыі — Сарнаў. Тут перасеў я на іншы цягнік і паехаў на ўсход пад Савецкую граніцу да ст. Клесава, якая знаходзіцца ў вельмі прыгожым месцы: навакола малога мястэчка і станцыі, якія нядаўна пабудаваныя — вяночкам абступае дубовы і сасновы лес. Месца гэта раўніннае, як і агулам усё Палесьсе.

Вышаўшы з станцыі ўзноў спаткаўся я з Паляшучкамі, якія параілі мне куды йсьці пасьнедаць.

У мястэчку ўсе жыхары гутараць „папаляшуцку," а нават і паліцыянты, калі хто да іх зварочваецца ў гэтай мове. Палесьсе і Паляшукі з кожным разам робяць на мяне прыямнейшае ўражаньне. Пачаткава чуюся тут як белы сярод нэграў. Каб ня зрываць кантакту з Паляшукамі, я папрасіў двух з сабою на сьнеданьне. П'ючы сьвежае малако, баім (размаўляем) „папаляшуцку."

**Фр. Цяцерскі.**

# Ab kulturnych formach žyćcia.

U spravie pryznavańnia patreby zachoŭvańnia peŭnych formaŭ tava:yskaha žyćcia, možna było-b padzialić usich ludziej na dźvie vialikija čaści: adny takuju patrebu pryznajuć, a druhija — adkidajuć. Nichto adnak nie zapiareča, što i naj-bolšy „adludak“, pokul žyvie pamiž ludziej, musić z imi spa-tykacca, hutaryć, karystać z niečyich prysłuhaŭ i sam druho-mu hetkija prysłuhi padavać. Hetki ŭžo paradak na hetym śviecie. A znača, čałaviek nia moža zamknucca tolki ŭ samym sabie, musić rachavacca, što pobač i adnačasna z im žyvuć tysiačy i miljony inšych ludziej, z niamienšymi pravami da žyćcia, čymsia jon sam.

Kab kožny čałaviek moh svabodna vykonyvać svaje aba-viazki — u hetym jaho prava!—i nie pieraškadžać u pracy in-šamu, bo toj da hetaha maje taksama prava,—kožny ruch, kožnaje słova, kožny čyn ludzki musić być kiravany niejkim pravam, ci zakonam, pisanym, abo ŭmoŭlenym. Hetkich pra-vił biaskonca mnoha i ŭsie jany śkiroŭvujucca da taho, kab ludzkim pastupkam nadać peŭnyja *abaviazkovyja formy*.

Heta forma jość kanieśnaja, ale nielha jaje pradstaŭlać jak niešta zakamianieŭšaje. Nie, forma jość tolki lustram sva-ječasnaha razumieńnia žyćcia, heta jość tolki jahonaja voprat-ka. Dziela hetaha nielha navučycca formaŭ žyćcia, nie pa-znaŭšy napierad žyćcia samoha. A na heta patrebna kultura, patrebna *ŭzhadavańnie*.

Doŭha jšče Biełarusy buduć adčuvać niedastatak svaje rodnaje škoły. A i taja naša navat moładź, što patrapiła ŭsio-ž niejak praz hetu škołu prajšci, nia vynosić, na žal, stul usiaho, što pavinna być prymietaj sapraŭdy kulturnaha, dobra ŭzha-davanaha čałavieka. Nia lepš staić sprava i z haduncami bol-šaści ŭ nas siańnia škoł niebiełaruskich: polskich, rasiejskich i inš. Dziaciuk ci dziaŭčyna z takoj škoły, pa 10-12-cioch hadoch navuki, majuć pretensii ŭvažać siabie za intelihientaŭ; pierša-ha ŭzhladu ci zvarotu ŭžo adnak časta dosyć, kab pierakanacca ab takich u ichnym uzhadavańni niedachopach, jakich nielha spadziavacca ŭ čałavieka čuć-čuć bačyŭšaha z biespasiared-niaj bliskaści sapraŭdy kulturnyja formy žyćcia.

Nia trudna dadumacca, skul usio heta pachodzić. Sučа-snaja, jak i pieradvajennaja jšče, škoła starajecca pieradusim napampavać vučniu jak najbolš „viedy“, kab jaho „navučyć“, zabyvajučysia adnačasna, ci prynamsia nie dacenivajučy čyń-nika *ŭzhadavaŭčaha*. Pierad vajnoj, kali siarednija škoły — a havorym tymčasam ab ich — zapaŭnialisia dziaćmi z kru-hoŭ intelihiencyi i ludziej zamožnych, nad uzhadavańniem školnaj moładzi starałasia siamja. Ciapier adnak tyja-ž škoły zapaŭniajucca dziaćmi vioski, jakim nieadkul było daviedacca

formaŭ žyćcia „ŭ ludziach"; škoła-ž hetaha padaŭnamu dahetul najčaściej nie daje. A žyćcio vymahaje!!... Skul brać, jak radzić?...

A što-ž havaryć ab moładzi viaskovaj, jakoj naahuł niedastupnymi astalisia ŭsialakija škoły?.. Nia ŭsiudy adnolkavy na heta vypadzie adkaz: jość miajscy, dzie prosta miła hladzieć, jak układajucca ŭzajemaadnosiny pamiž moładździu, a jość i... horaj.

Padymanyja ŭ hetaj spravie hałasy da hetaj pary astalisia biez naležnaha recha... Bo i nialohkaje pytańnie: žyćcio pieramianiłasia i ŭściaž jašče mienicca. Niama ŭstalenych pahladaŭ, a što za tym idzie — i advahi ŭziać hołas u hetaj tak važnaj spravie.

A žyćcio pływie i stavić svaje damahańni...

Kab choć u małoj častcy zdavolić pałačuju patrebu i dać našaj moładzi elementarnyja prynamsia praviły zachoŭvańnia „ŭ ludzioch", my ŭ nastupnych numaroch „Šlachu Moładzi" pastarajemsia źmiaścić rad adpaviednych hutarak, na katoryja ŭžo siahońnia pazvalajem sabie źviarnuć uvahu našych maładych i staršych čytačoŭ i prychilnikaŭ.

*rc.*

# Žyvaja i niažyvaja pryroda.

## Haspadarskaja svojskaja žyvioła.

*Jaje prošłaść i sučasnaść.*

Sučasnaja nam navuka z adnaho boku ćvierdzić, što ničoha ŭ śviecie nia hinie, a z druhoha, — što ŭsio z časammianiajecca. Prad mnohimi sotkami i tysiačami hadoŭ usia ziamla i ŭsio žyvoje dy niažyvoje stvareńnie jnakš vyhladała, čymsia siahońnia i jašče jnakš budzie vyhladać u budučyni. Inakš vyhladaŭ tady sam čałaviek, inakšym było jahonaje žyćcio, inakšymi byli jahonyja štodziennyja pamacniki ŭ pracy: jahonaja žyvioła.

Heta apošniaja pieradusim była ŭ stanie dzikim, tak jak da siahońnia dzikimi žjaŭlajucca vaŭki, lisicy, zajcy i im padobnyja. Dalokich prodkaŭ karovy, kania i inš. siańnia svojskaj žyvioły treba było spačatku asvoić, kab mieć z ich niejkuju karyść. Pryčyn adnak peŭnych, dziela katorych čałaviek asvojvaŭ žyviołu, navuka siahońnia jšče nia viedaje; dapuskaje tolki, što mahli heta być pryčyny starapahanskaj relihii, jakaja vymahała ad ludziej stałych achviaraŭ u formie hetak zvanaha c e ł a p a ł e ń n i a. Bolš adnak padobna da praŭdy, što asvojvać žyviołu zmušaŭ čałavieka h. zv. samazachavaŭčy instynkt: čałaviek musiŭ žyć i šukaŭ, jak umieŭ, dziela he-

taha adpaviednych sposabaŭ. Peŭnie-ž, što heta apošniaje tłumačeńnie pradstaŭlaje ŭžo čałavieka z peŭnaj dolaj rozumu, bo zdolnaha ŭžo dumać ab zabieśpiačeńni svajho žyćcia na buducyniu.

Bolš ščaścia mieła navuka ŭ aznačeńni pary (času), u jakoj asvojvańnie žyvioły dziejełasia. Tut dyk navuka amal napeŭna kaža, što žyvioła asvoiłasia ŭžo ŭ čas hetak zvanaj *neolityčnaj* epochi (pary), h. zn. u druhoj pałovie *kamiennaj* epochi ziamli,*) bolš-mienš prad 6-ciu tysiačami hadoŭ. Kab lepš usio heta paznać dy kab zrazumieć šmat źjavaŭ i zahadak u akružajučaj nas pryrodzie, pryhledźmasia bližej da paasobnych našych svojskich žyviolin, z katorymi štodnia spatykajemsia, z katorymi ŭvieś čas žyviom i katorych — až stydna! — nia znajem.

*Koń.*

Koń, jak svojskaja žyvioła, byŭ užo za 2 tys. hadoŭ prad Chrystom u Ehipcijanaŭ, Persaŭ i ŭ inšych narodaŭ na Ŭschodzie.

Pavodle znajdzienych u ziamnych raskopkach konskich škialetaŭ, navuka ćvierdzić, što dziki koń žyŭ jašče ŭ dalokaj pradhistaryčnaj pary, raniej za čałavieka. Adnak koń taho času byŭ mała padobny da kania siahońniašniaha. Pieradusim jon byŭ susiom mały, nia bolšy za siańniašniuju lisicu. Na nahach mieŭ pa piać palcaŭ, čašć katorych z časam adnak pamału ad niaŭžyvańnia maleła i ŭrešcie susiom zanikała. Siahońnia koń nastupaje tolki adnym palcam: rešta zachavałasia tolki ŭ formie asobnych kalakapytnych kostačak.

Pavodle siańniašniaha stanu navuki, svojski koń maje svaich prodkaŭ u dvuch hatunkach koniaŭ dzikich: adzin z ich pachodziŭ z Azii i daŭ pačatak koniam lohkim (uschodnim), a druhi pachodziŭ z Eŭropy i daŭ pačatak ciažkomu kaniu (zachodniamu). U siaredniaj Azii da siahońnia žyvuć jašče stadami dzikija koni: džigetai, tarpan i h. zv. koń Prževalskaha.

Z časam formy kania raźvivalisia zaležna ad patrebaŭ žyćcia. Padčas, kali na Ŭschodzie Araby i Tatary hadavali kania lohkaha i chutkaha, bo musili pierajaždžać vahromnyja prastory, na Zachodzie panavała para ciažkoha rycarstva, jakoje patrabavała ŭznoŭ kania choć i pavolnaha, ale załoje silnaha, zdolnaha ŭnieści nia tolki samoha zakutaha ŭ žaleznv pancyr rycara, ale i jahonuju ciažkuju, h. zv. zimnuju zbroju. Kali adnak ludzi vydumali porach, ciažkoje rycarstva straciła svajo značeńnie. Razam z hetym adyšoŭ u cień i ciažki koń, jaki staŭ užyvacca tolki dla pieravozki vialikich ciažaraŭ.

Urešcie pryšoŭ čas pary i elektryčnaści, a kania pačała vyciskać mašyna (ciahnik, aŭtamabil, traktar). Šmat chto du-

*) Kamiennuju epochu ŭ raźvićci ziamli navuka ličyć za najstarejšuju.

maŭ, što na kania pryšoŭ užo kaniec. Až nie! I najnaviejšyja hałasy kažuć, što „benzyna nie zamienić aŭsa“, a znača i mašyna nie zamienić kania, choć peŭna-ž, — abmiežyć jahonaje raspašyreńnie.

Pry hetkich umovach žyvie i pašyrajecca siańnia koń u roznych vidach: ad małoha pony da vołata — clydesdaly, ad pavolnych i ciažkich zimnakroŭnych „belhaŭ“, da žyvych i skorych, jak strała, ciopłakroŭnych „arabaŭ“ i „anhlikaŭ“.

Dalšy los kania zaležyć ad taho, da čaho jaho buduć ludzi ŭžyvać. Siahońnia najbolš užyvaje kania: ziemlarobstva, vojska, mienš — promysł i handal (dla pieravozki), dalej — sport, palavańnie, kapalni i navat. . zabava (polo). Vialikuju raspašyranaść zaŭdziačaje koń svajej sapraŭdy dabrackaj natury, dajučysia kiravacca navat dziciaci. Paniatlivaść kania da navučeńnia novych rečaŭ — nieasablivaja: koń ciažka razumieje, kali čałaviek choča ad jaho niejkich novych, dahetul jamu niaznanych rečaŭ. Ale zatoje koń „biare“ pamiaćciu i svajej „dobraj volaj“, kali ab niejkaj voli ŭ žyvioły naahuł moža być mova.

Dziela hetaha sapraŭdnym barbarstvam z boku čałavieka jość ździekavacca nad niemaj žyviolinaj — kaniom, kali jon časam nia moža niečaha ci to paniać, ci paniataje — vykanać. Chaj-ža da hetaha nie prykładaje ruki naša biełaruskaja moładź!

Koń zasłužyvaje na ŭvahu i pryznańnie často bolš, čym-sia... čałaviek!

*AD. KLIMOVIČ inžynier-ahranom.*

---

## Ab elektryčnaści.

Elektryčnaja enerhija (siła) była i jość byccam dušoj šmatlikich pryrodnych źjavaŭ, jak: małanka, bliskavica, hrom. Hetu-ž enerhiju čałaviek uproh u svaje słužby ŭ telefonach, telehrafach, radio, u štučnym aśviatlańni i nahravańni, u medycynie, u pahaniańni roznych mašynaŭ i h. p. Dyk što-ž takoje heta elektryčnaść?

Kab adkazać na heta pytańnie, zastanovimsia chvilinku nad istotaj budovy roznych ciełaŭ.

Voźmiem naprykład mały kamień, razabjom jaho na drobnyja častki; razatrom hetakuju častku na drobnieńki pyłok. U adnej, takoj pylincy, jak śćviardžajuć apošnija doślady vučonych, jość jašče miljardy častak dalej užo niepadzielnych— *elektronaŭ*. Nievialikaja kolkaść elektronaŭ k r u ž y ć kala paasobnych *protonaŭ*, mnoha raz bolšych za elektrony: dziejecca tut niešta na ŭzor kružeńnia planetaŭ, miž katorymi znachodzicca i našaja ziamla — kala sonca. — (Jak mudra i dziŭna śviet zbudavany!).

I hetyja voś elektrony i źjaŭlajucca najmienšymi častkami elektryčnaści. Roźnicy ŭ zachavańni paasobnych ciełaŭ da elektryčnaści vynikajuć z kolkaści elektronaŭ kružačych kala protonaŭ. Pry niekatorych varunkach, jakija razhledzim dalej, vytvarajecca ŭ ciele nadmiernaja kolkaść elektronaŭ, dyk jany starajucca ŭciačy z jaho i cieła tady vytvaraje elektryčnaść I-ha rodu (elektryčnaść „adjemnaja"); pry niedachopie elektronaŭ cieła vykazvaje elektryčnaść II-ha rodu (elektryčnaść „dadatniaja").

Vytvarajecca elektryčnaść pradusim praz ciercie dvuch roznych ciełaŭ. Šklanaja pałačka, paciortaja ab sukno, pryciahivaje drobnyja kavałački papiery, vykazyvajučy hetym stan elektryčny. Dalej, łohkaj da vykanańnia probaj jošć hładžeńnie kata pad šerść (suchoj rukoj pry suchim pavietry), pry čym čuvać tresk iskračkaŭ, vidavočnych u ciomnym miejscy. Pry časańni hrebianiom z ebonitu (čornaja masa), adčuvajecca tak-ža tresk elektryčnych iskraŭ.

Isnujuć adpaviednyja mašyny, jakija vytvarajuć elektryčnaść pry pomačy ciercia. Atrymanyja ŭ hetych mašynach iskry bjuć na 20 cm daŭžyni z bleskam i hołasnym treskam, naśladujučy hetak hrom i bliskavicu ŭ volnaj pryrodzie.

Elektryčnaja enerhija moža być pieranošana pry pomačy drotu z skoraściu 300.000 kilametraŭ za adnu sekundu. Heta značyć, što kali-b abkružyć ziamlu drotam (40.000 km) i puścić pa im elektryčny tok, to jon u adnu sekundu ablacieŭby ziamlu bolš čym 7 razoŭ (tak!). Takuju-ž samuju skoraść maje i śviatło, katoraje jość u bliskoj łučnaści z elektryčnaściaj. — Aproč metalaŭ, z jakich sierabro i miedź pierapuskajuć elektryčny tok najlepš, heta samaje robić vada, „retortavy" vuhal (jak u elektryčnj batarejcy), vilhotnyja ciely (syroje dreva) i cieła ludzkoje.

Druhim sposabam vytvarańnia elektryčnaści jość dziejańnie zakvašan j vady na dva roznyja metali. Naprykład blaški: cynkovaja i miednaja, budučy ŭstaŭleny ŭ šklanku z vadoj (nie pavinny z saboj stykacca), zakvašanaj sierkavym kvasam (možna dastać u aptecy), vytvarajuć elektryčny tok. Ad dziejańnia kvasu, na cynkovaj blaścy vytvarajecca nadmierny lik elektronaŭ, a na miednaj — niedachop ich. I kali ciapier da blašak pryłučym pa kavałku miednaha drotu i kancy ich z saboj pałučym, dyk praz złučanyja draty papłyvie tok elektronaŭ ad blaški cynkovaj da miednaj; a kali-b my razłučanyja draty dałučyli da elektryčnaj lampački, dyk taja zaśviaciła-b.

Kali ŭziać žalezny prutok abkručany izalavanym drotam—h. zn. abvierčanym jadvabnaj nitkaj, kab nia było vidać metalu— i puścić praz hety drot elektryčny tok, dyk prutok stajecca mahnesam i pryciahivaje roznyja žaleznyja rečy. Kali-ž tok prarviom, dyk žalezny prutok pierastaje być mahnesam.

Bačym tut vialikuju zaležnaść miž elektryčnaściaj i mahnetyzmam.—Ruchajučy mahnesam kala špulki z nakručanym izalavanym drotam, bačym uznoŭ druhuju zaležnaść, bo ŭ drocie tym vytvarajecca elektryčnaśc. Na hetaj zasadzie apirajecca budova mašyn, vytvarajučych elektryčny tok (dynamo mašyny).

Astałosia jšče razhledzić zastasavańnie elektryčnaha toku (telefon, telehraf, radio, elektryčnaja lampa i inš.), ale heta zrobim užo inšym razam.

*B. M.*

# Літэратурны аддзел.

## НА НОВЫ 1932-гі ГОД.

З новым годам, мае брацьця,
З новай доляй і жыцьцём!
Хай малы хоць брыжок шчасьця
Схоча быць у нас гасьцём!
Хай пакіне нас нядоля, —
Цяжкі крыж, што нас гняце,
Хай над нашым краем воля
Залунае, зацьвіце.
Мы — прыгнечаны бядою,
Сьлёзаў шмат так пралілі;
Год за годам — чарадою
Нам палёгкі не далі.
Дык няхай нам ў гэтым годзе
Душа з болю не скамліць
І ў пакрыўджаным народзе —
Песьня волі зазьвініць!

**С. Гаротны.**

## МАЛАДЫМ ПЕСЬНЯРАМ.

Наша мэта — сонца
Мы жывём — агнём.
І па ўсей старонцы
Перакліч вядзём.

Нас такіх ёсьці многа
Многа маладых.
Клічам перамогу
Мы да хат курных.

З багна на дарогу
Выйдзем, як адзін.
Гэй! прастор шырокі!
Гэй! вітай нас сінь!

Мы з балот вяковых,
Мы — цямры сыны,
У шумных песьнях новых
Рвёмся да вясны.

Нам ня страшны буры,
Нам ня страшан гром
І па ўсей старонцы
Веснашум пяём.

Сонца — наша мэта,
Мы жывём агнём.
Новую мы гэта
Беларусь куём.

**М Машара.**

## У ПУШЧЫ.

Ціха пушча штось гамоніць,
Быццам жальбу шле ў прастор,
Вярхі гордых соснаў клоніць
Вецер, прыляцеўшы ў бор.
Між старых дубоў канараў
Лісьцём ссохшым зашуміць,
Узноў сьціхне поўны чараў:
Не'к таёмна лес маўчыць.
Пад гальлём ялін высокіх,
Між старых вяковых хвой
Іду сумны, адзінокі,
Ціша родзіць думак рой.
Там, дзе поступ чалавека
Не крануў натуры твор,
Дыша горда красой нейкай —
Векавечны пушчы бор.
Тут так ціха, так спакойна,
Крыўд ні чуць, ані нуды,
Тут душой спачынеш вольна
Ад ўсіх зьдзекаў і жуды.

**Грынкоўскі**

## LEŬ—SUDŹDZIA.

Bydła i žviary
Ad jakojś pary
Z vaŭkom zładzić nie mahli:
U sud jaho padali.
A byŭ vojtam voŭk tady.
Mieła bydła šmat biady:
Jon u kožnuju paru,
Nos zadzioršy ŭ haru,
Žviaroŭ dušyŭ biez razboru,
A na't
Z chlavoŭ ciahaŭ parasiat.
Leŭ, jak car usich žviarej,
Daŭ prykaz na sud chutčej
Usim pakryŭdžanym prybyć:
Sam chacieŭ jon rassudzić
Ci mo' vojta im druhoha
Vyznačyć na hod.
I vot,
Syšłosia žviaroŭ mnoha.
„Chto na vaŭka kryŭdu maje?“
Tak sabranych leŭ pytaje,
Kab vaŭka nie razdražnić.
Uvieś schod ŭ vadno kryčyć:
— Panie Leŭ! Voŭk, ničoha,
Kryŭdy robić nam nia mnoha“.
— Nu dyk vojtam budzie ŭznoŭ.
A ciapier — ŭsie marš damoŭ!“
Tak sud končyŭ sudździa leŭ.
Kali piorła bydła u chleŭ,
Žviary biehli ŭ les nazad —
Voŭk śmiajaŭsia — z sudu rad:
„Dobra budzie, dumaŭ, mnie
yć u hetaj staranie,
Bo tut durni nie źvialisia“.
I tak...usie razyšlisia.

*J. B.*

---

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАИ КАЛЕГІІ:*
*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш і Альфонс Шутовіч*

**Выдавец Янка Багдановіч. Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч**